# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 19 (2265) 7 мая 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).




**Ушанаваць памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій — гэтым жыве грамадскасць Беларусі. Быў аб'яўлены адкрыты Рэспубліканскі конкурс на праект помніка ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гадоў. Ён павінен быць устаноўлены ў Курапатах, якія пасля Хатыні сталі другім сімвалам пакут і слёз народа, яго генацыду.**

**Цяпер у мастацкай галерэі Мінска выстаўлены сем работ, аўтары якіх прымаюць удзел у другім туры конкурсу.**

**НА ЗДЫМКУ: адна з конкурсных работ.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

*НАТАТКІ ФІЛОСАФА*

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ У ПРАСТОРЫ І Ў ЧАСЕ

Беларуская культура... Загадкавая культура загадкавага народа, які змог захаваць сябе ў прасторы і ў часе, пранесці праз вякі ўласную унікальнасць. Беларускі шлях... Шлях цяжкага пазнання сябе, калі жыццё—пастаянны адказ на выклік лёсу ў абставінах зусім неміласэрных, магчыма нават катастрафічных. Выпрабаванні ператтвараюцца ў звыклы атрыбут паўсядзённасці, а промысел Божы таксама не праяснены, як і стагоддзі назад. Але калі праўда, што творыцца ён праз людзей, праз кожнага чалавека, то і шлях народа—гэта акт самапазнання, праяўленне свабоднай творчай волі, паколькі Бог стварыў людзей вольнымі і абставіны іх жыцця залежаць перш за ўсё ад іх саміх. А калі так, то значыць яшчэ не страчана, яшчэ ёсць надзея на будучыню, апора і карані якой у мінулым, якім бы трагічным гэта мінулае ні бачылася з дня сённяшняга. Мера аптымізму—нашы веды і разуменне саміх сябе, сваёй культуры, сваёй гісторыі.

Самасвядомасць і самаразуменне народа, напрамую звязаныя з развіццём культурнага нацыянальнага комплексу, уключаючы у сябе цэлы космас уяўленняў аб сабе, сваім месцы ў гісторыі, аб найбольш істотных каштоўнасцях быцця, аб сусвеце, дзе разгортваецца гэтае быццё. З цягам часу, вядома, непазбежныя перамены, але асноўны комплекс уяўленняў, ядро светаразумення застаецца нязменным, што і дазваляе народу заставацца самім сабой, не згубіцца на дарогах гісторыі.

Гістарычны лёс беларускага народа унікальны таксама, як унікальны лёс кожнага народа. Ён уносіць у чалавечую цывілізацыю сваю лепту, пасапраўднаму неацэнную, калі чалавецтва рыхтуецца ўступіць у трэцяе тысячагоддзе, калі традыцыі талерантнасці, цярпімасці, суіснавання, узаемаўзбагачэння розных культурных тэндэнцый становяцца фактарам выжывання.

На працягу стагоддзяў на беларускай зямлі суіснавалі розныя культурныя і рэлігійныя традыцыі, што аказала немалы ўплыў на фарміраванне этнічнай самасвядомасці, якая вызначаецца талерантнасцю і пластычнасцю. Менавіта апошняя якасць і прадвызначала здольнасць адэкватнай рэакцыі на пастаянны выклік лёсу і часу, які ператтвараў гэты край у сапраўднае перакрыжаванне сусвету. Стагоддзе за стагоддзем накатваліся хвалі розных рэлігій, ідэйных цячэнняў, культурных уплываў, мяняліся дзяржавы і палітычныя эліты, але ядро светаразумення народа захоўвалася, убіраючы ў сябе многае, але многае і адхіляючы як чужое, не сваё. Захоўвалася культура, набываючы новыя рысы, якія адмаўлялі традыцыі гістарычнай мінуўшчыны.

На фарміраванне ментальнасці беларускага народа, безумоўна, аказала ўплыў праваслаўе з яго высокімі этычнымі ідэаламі, спецыфічным спосабам светаразумення, асэнсаваннем

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ЗАКЛІКАЮ ДА ТАЛЕРАНТНАСЦІ

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Мне 17 гадоў, сёлета заканчваю сярэднюю школу. Больш года сачу за публікацыямі ў газеце па праблемах міжканфесійных узаемаадносін на Беларусі.

Вельмі часта ў газеце з'яўляюцца артыкулы, асноўны сэнс якіх—«экспансія каталіцкага Ватыкану ў праваслаўнай Беларусі». Пры гэтым аўтарамі такіх артыкулаў і допісаў з'яўляюцца звычайна беларусы з Англіі. Чаму менавіта з Англіі? Мне здаецца, з-за таго, што там выдаецца і там жа пераважна распаўсюджваецца часопіс «Голас часу» (калі не памыляюся, такая ў яго назва). Я знаёмы з некаторымі матэрыяламі часопіса і мушу сказаць, што больш адыёзнага, больш нецярпімага да іншадумцаў, да каталікаў (у першую чаргу —грэка-католікаў) выдання, пэўна, не існуе.

І асабліва мяне ўскалыхнуў допіс С. Шчэрбы з усё той жа Англіі, што надрукаваны ў «Голасе Радзімы» № 15 за 1992 год. Мала таго, што аўтар адмаўляе беларусам-уніятам у свядомасці і вернасці (праваслаўю?), называючы іх «беларусамі-калабарантамі Ватыкану», мала, што адмаўляе уніятам у мастацкай спадчыне, створанай нашымі папярэднікамі, дык яшчэ выдумляе аб «велізарным нашэсці місіянераў, пераважна вуніятаў, вышкаленых Ватыканам, навучаных той мове рэспублікі, у якую яны прызначаюцца».

А цяпер па парадку. Сапраўды, праваслаўнай грамадскасці ёсць над чым задумацца з той нагоды, што пэўная частка вернікаў БПЦ далучаецца да грэка-католікаў. І часцей гэта тыя, хто хоча ўсхваляць Госпада па-беларуску на карысць сабе і сваёй Бацькаўшчыне (нагадаю, што БПЦ ёсць частка Рускай ПЦ і знаходзіцца ў поўнай залежнасці ад маскоўскага Патрыярхата). І такі пераход можа стрымаць толькі аўтакефалізацыя праваслаўя на

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

**«Мінулі доўгія дзесяцігоддзі, але сардэчныя думкі і пачуцці да любага краю ніколі не пакідалі мяне»,— піша ў сваім лісце да Беларускага таварыства «Радзіма», з якім падтрымліваў цесную сувязь з канца 70-х, добра вядомы ў Скандынавіі мастак і педагог Алесь Ахола-Вало. Ён, вялікі сябар Беларусі, у культуры якой ёсць і часцінка яго таленту, сумлення і працы, жыве сёння ў горадзе Хямеенліна, што за сто кіламетраў ад сталіцы Фінляндыі.**

**Так, мінулі дзевяць дзесяцігоддзяў ягонага жыцця, лёсу, поўнай мераў падзеленага са сваім равеснікам, XX стагоддзем. Было ўсё: і паэтыка рэвалюцыйнай рамантыкі, і чэмер выгнання, і творчыя пошукі, і прызнанне за мяжой. Але над усім і заўсёды — шчырасць душы і сумленнасць.**

**Нядаўна ў Хельсінкі знаходзілася беларуская дэлегацыя. Вырашылі наведаць мастака...**



*(Матэрыял пра мастака А. Ахола-Вало змешчаны на 4-й стар.).*

У АКАДЭМІІ НАВУК

## НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ

На сесіі агульнага сходу Акадэміі навук Беларусі выбраны яе новы прэзідэнт. Ім стаў Леанід Сушчэня.

Леаніду Міхайлавічу 62 гады. Ён доктар біялагічных навук, прафесар, акадэмік АН Беларусі і Расійскай акадэміі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Да выбрання працаваў акадэмікам-сакратаром Аддзялення біялагічных навук АНБ, на грамадскіх пачатках узначальваў Інстытут заалогіі.

ПАЦЯРПЕЎШЫМ АД ЧАРНОБЫЛЯ

## РАСІЯ ДАСЦЬ ГРОШЫ

Забеспячэнне пацярпеўшых ад чарнобыльскай і іншых відаў радыяцыйных катастроф медыкаментамі, фінансавая падтрымка перасяленцаў з зон радыеактыўнага забруджвання—гэтыя і іншыя меры прадугледжаны пастановай урада Расіі «Аб мерах па рэалізацыі пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб аб'ёмах і парадку фінансавання ў 1992 годзе расходаў на ліквідацыю вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Пастанова прынята ўрадам Расійскай Федэрацыі напярэдадні 6-й гадавіны трагедыі на Чарнобыльскай АЭС (26 красавіка).

У спецыяльны фонд, утвораны пагадненнем дзяржаў СНД па ліквідацыі і пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў студзені гэтага года, штоквартальна будзе пералічваца 4 616 мільёнаў рублёў (у цэнах 1984 года). Сума ўлічвае адзіныя індэксы інфляцыі і ўзгоднена з урадам Рэспублікі Беларусь.

На закупку прыбораў і медыцынскіх прэпаратаў для лячэння пацярпеўшых ад радыяцыйных катастроф выдзяляецца сума амаль 118,5 мільёна інвалютных рублёў.

Перасяленцам з зон радыеактыўнага забруджвання будзе прадастаўлена магчымасць пастаяннага пражывання на тэрыторыі Беларусі або іншых дзяржаў СНД, фінансавая падтрымка ў суме 35 тысяч рублёў на кожнага (у цэнах 1984 года), забеспячэнне сацыяльна-бытавых умоў і работы.

Пастанову падпісаў першы намеснік Старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі Ягор Гайдар.

ЗАЯВА АПАЗІЦЫІ

## СУПРАЦЬ НАМЕНКЛАТУРЫ

У заяве дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь асуджаюцца дзеянні Вярхоўнага Савета, якія далі магчымасць правесці ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі 5 прадстаўнікоў наменклатуры.

Пасля таго, як больш чым 440 тысяч грамадзян Беларусі выказаліся за рэферэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенне новых парламенцкіх выбараў, гаворыцца ў заяве, пракамуністычная наменклатура пачала шукаць спосабы для захавання ўласных кіруючых пазіцый.

22 красавіка ў Вярхоўным Савеце адбылося даабранне членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая, згодна з існуючым заканадаўствам, павінна кантраляваць і правядзенне рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Усе прапанаваныя кандыдатуры прадстаўлялі кіруючую наменклатуру, у іх вылучэнні не ўдзельнічалі працоўныя калектывы заводаў, калгасаў, навучальных устаноў, а таксама грамадскіх арганізацый, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Галасаванне ж па кандыдатурах адбывалася з парушэннем Часовага Рэгламенту Вярхоўнага Савета — дэпутаты нават былі пазбаўлены магчымасці задаць пытанні прэтэндэнтам, высветліць узровень іх кваліфікацыі.

Аднак у выніку сілавога ціску кансерватыўнай парламенцкай большасці ўсе пяць прапанаваных кандыдатаў былі абраны — у мэтах самазахавання Вярхоўны Савет ізноў пайшоў на парушэнне заканадаўства. Такім чынам, сёння ў складзе Цэнтральнай выбарчай камісіі няма ніводнага прадстаўніка дэмакратычных партый і рухаў, зарэгістраваных на Беларусі.

*«Сёння Інстытут гісторыі, як і іншыя ўстановы Акадэміі навук Беларусі, апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы. У інстытуце мы ўжо цяпер вымушаны скарачаць каля 30 чалавек і паўтара дзесятка пераводзіць на паўстаўкі. Гэта фактычна закранае каля трэці ўсяго калектыву, але не вырашае фінансавую праблему. У той жа час далейшае скарачэнне прывяло да распаду аддзелаў і згортвання даследаванняў па цэлых гістарычных перыядах.*

*Да таго ж у бягучым годзе інстытут пазбаўлены фінансавай магчымасці праводзіць палявыя археалагічныя даследаванні. Мы вымушаны пераключыць на заработную плату тыя невялікія сродкі — 45 тысяч рублёў, якія раней давалі археолагам для правядзення раскопак. Акрамя гэтага, дагаворы, якія нам удаецца цяпер заключаць, маюць вельмі нязначны каэфіцыент карыснага дзеяння, таму што падаткі — грабежніцкія. Яны зводзяць дагаворы фактычна на нішто. Мяркуйце самі: 41,8 працэнта складае падатак дзяржстраха і фонду занятасці, 33 працэнты — накладныя выдаткі і 18 працэнтаў — надзвычайны чарнобыльскі падатак. У выніку адлічэнні складаюць 92,8 працэнта. Вось фактычна і ўвесь гаспадарчы дагавор. Такое ж становішча не толькі ў нас. Яно адносіцца і да мастацтвазнаўцаў, біёлагаў, геолагаў і іншых».*

*(З інтэрв'ю дырэктара Інстытута гісторыі АН Беларусі Міхаіла КАСЦЮКА газеце «Звязда»).*

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ЗЛАЧЫНЦЫ Ў ПАГОНАХ

Ноччу ў калгасе імя Гагарына Смалявіцкага раёна кралі яблыкі. Не прыгатаваныя да пасадкі саджанцы, а маладыя дрэўцы, вырашчаныя мазолістымі сялянскімі рукамі яшчэ два гады назад. Як аказалася, да крадзяжу мелі дачыненне... міліцыянеры.

Калгасны сад, быццам магніт, пачаў прыцягваць да сябе розных аматараў пажывіцца на дармаўшчыну. На базары за саджанец трэба плаціць да 100 рублёў, таму значна прасцей украсці чужое. Крыўдна калгаснікам. Удвайне непрыемна, калі на парушэнні закона ідуць тыя, хто павінен яго абараняць.

Так было і той ноччу. У «Жыгулях» аказаліся чацвёра, двое ў цывільным паспелі ўцячы. Затрыманы ж капітан міліцыі прад'явіў дакументы на імя Міхаіла Катка. Сяржант, які быў з ім, аказаўся яго падначаленым. Як пазней высветлілася, абодва працуюць у міліцыі Мінскага метрапалітэна.

— Здзіўляе тое, што большасць затрыманых маюць адносіны то да арміі, то да міліцыі, — гаворыць старшыня калгаса Яўген Кульваноўскі. — Зусім нядаўна, напрыклад, затрымалі групу ваеннаслужачых: двух прапаршчыкаў і салдат, што спрабавалі ўкрасці сетку, якой абнесены сад.

ДАГАВОР

## ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ АРХІВАЎ

Цяпер паміж архіўнымі службамі краін СНД будзе дзейнічаць пагадненне, якое павінна спрыяць аднаўленню, захаванню і пошуку унікальных дакументаў для стварэння нацыянальных архіваў. У выніку войнаў, міграцыі насельніцтва, сталінскіх рэпрэсій, адзінага гаспадарчага механізма былога Саюза гэтыя матэрыялы аказаліся раскіданымі па ўсёй краіне. Аднавіць іх шляхам узаемавыгаднага абмену, адшукаць і выкупіць прыватныя архівы, зрабіць копіі найбольш каштоўных дакументаў, якія захоўваюцца за мяжой,— задача, якую можна вырашыць толькі разам. Напрыклад, у адной Маскве сканцэнтравана 18 галіновых архіваў, у якіх знаходзяцца дакументы па гісторыі ўсіх былых рэспублік Саюза.

Дагавор аб узаемным супрацоўніцтве архіўных службаў падпісаны ў Мінску.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ У 1991 годзе ў Беларусі насельніцтву прададзена 39 тысяч кватэр. Кошт адной кватэры склаў у сярэднім 6,7 тысячы рублёў, агульная плошча яе—57 квадратных метраў.

◆ З адной тоны купонаў, уведзеных у рэспубліцы на пачатку года, на Шклоўскай папяровай фабрыцы атрымліваюць 880 кілаграмаў упаковачнай паперы. Першыя дзесяткі тон пагашаных у гандлі купонаў ужо дастаўлены ў Шклоў.

◆ Творы рэзчыка па дрэву Івана Лізуры са Старых Дарог дэманструюцца на выстаўцы-кірмашы беларускай народнай творчасці ў Мілане (Італія). Да гэтага таленавіты майстар выстаўляў свае работы ў Швейцарыі і Францыі. І ўсюды—з поспехам.

◆ Пазбавіліся працы ўсе 32 работнікі Пастаўскай праектнай майстэрні, якая на працягу 20 гадоў была філіялам «Віцебсксельгаспраекта» і мела высокую рэпутацыю. Прычына адна—няма заказчыкаў, таму што ў іх няма за што будаваць.

◆ У Мінску ўпершыню роды праходзілі ў вадзе па методыцы Ігара Чаркоўскага, якая вядома ў многіх краінах свету. Такім чынам Ларыса Кажэкава нарадзіла дачушку, ёй далі імя Ульяна.

◆ У Беларусі самая высокая канцэнтрацыя войск у параўнанні з іншымі краінамі СНД. На дзесяць мільёнаў насельніцтва дзесяць дывізій, у той час як на Украіне—20 дывізій на 50 мільёнаў насельніцтва.

◆ Першыя 39 прадпрыемстваў прыватызаваны ў Беларусі. Пасведчанні аб гэтым іх уладальнікам уручыў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па эканамічнай рэформе Л. Козік. Прыватызуемыя прадпрыемствы называюцца народнымі калектывамі.

◆ Чарга на атрыманне кватэры ў Мінску—152 тысячы чалавек. Большасці з іх прыйдзецца не разлічваць на дзяржаўнае жыллё, а будаваць яго самім, за ўласныя грошы. Пакуль што кошт трохпакаёвай кватэры складае 300 тысяч рублёў.

◆ У 82-м паштовым аддзяленні сталіцы ў чарзе за сваёй пенсіяй памерла мінчанка В. Л. Чарга, якую пенсіянеры займаюць з 6 гадзін раніцы, складала больш за 80 чалавек.

ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫ АРКЕСТР

**Разнастайныя музычныя жанры дэманструе першы ў Беларусі прафесіянальны аркестр духавых інструментаў «Няміга». Імкнучыся звярнуцца да вытокаў нацыянальнай творчасці, ён шырока скарыстоўвае фальклор. Значнае месца ў рэпертуары займаюць сучасныя мелодыі. Аркестр прапануе слухачам таксама свае прачытанне Чайкоўскага, Глінкі, Равеля і іншых вялікіх кампазітараў.**

**«Няміга» — гэта творчая садружнасць больш чым 60 музыкантаў, сярод іх нямала лаўрэатаў міжнародных і ўсесаюзных конкурсаў і тры яркія дырыжоры, кожны з якіх прыйшоў у аркестр са сваімі задумамі. У маладога калектыву — вялікія творчыя планы. Яны ўключаюць падрыхтоўку гастрольнай праграмы, якую пакажуць у Польшчы, удзел у 5-м міжнародным фестывалі духавых інструментаў, які адбудзецца сёлета ў Швецыі.**

**Праўда, каб дастойна прадстаўляць Беларусь за мяжой, калектыву неабходна належнае матэрыяльнае забеспячэнне. А таму ён шукае спонсараў. І вельмі спадзяецца, што знойдуцца мецэнаты, гатовыя падтрымаць першы прафесійны аркестр духавой музыкі.**





**НА ЗДЫМКАХ: на сцэне — мінскі дзяржаўны аркестр духавых інструментаў «Няміга»; саліруе лаўрэат міжнародных конкурсаў прафесар Маскоўскай кансерваторыі Маргарыта ШАПАШНІКАВА.**





# СВЕТЛАЕ СВЯТА ВЯЛІКДЗЕНЬ

**Сёлета ўпершыню за доўгія дзесяцігоддзі мы святкавалі Вялікдзень так, як на працягу вякоў святкавалі яго нашы продкі. Гэта было нейкае дзіўнае пачуццё свабоды, натуральнасці, радасці вяртання да таго, што было і застаецца сапраўдным, арганічным. Не варта думаць, што адбылося імгненнае і ўсеагульнае прасвятленне, што заўзятыя атэісты сталі раптам сапраўднымі вернікамі. Хутчэй за ўсё мы ніколі і не былі артадаксальнымі бязбожнікамі, і вера ў вышэйшае прызначэнне чалавека, у бяссмерце яго духа, у вечнае жыццё, якое сцвярджае Уваскрэсенне Хрыстова, жыла ў нас заўсёды.**

**Вялікдзень — галоўнае свята праваслаўнай царквы. Успаміны аб пакутах і ўваскрэсенні распятага Ісуса Хрыста леглі ў царкоўную абраднасць Перадвелікоднага тыдня посту і Святога тыдня Вялікадня, святкаванне якога адбываецца пад урачысты перазвон званоў, з духмянымі кулічамі і фарбаванымі яйкамі. Велікодныя абрадныя стравы і раней бывалі на нашым стале, але быццам незаконна, асвячаць жа іх рашаліся вельмі нямногія. Сёлета пры жаданні асвяціць кулічы і яйкі мог кожны. І жадаючых было нямала.**

**У ноч з 25 на 26 красавіка ў Мінскім кафедральным саборы адбылося ўрачыстае святочнае богаслужэнне. І тут веруючых, і тых, хто ідзе да веры праз сумненні і пошукі, было больш, чым заўсёды. Богаслужэнні адбыліся і ў іншых мінскіх храмах, ва ўсіх беларускіх цэрквах.**

**Фота В. СТАВЕРА.**





# ПРАФСАЮЗЫ КРАІН СНД АБ'ЯДНОЎВАЮЦЬ НАМАГАННІ

**Нядаўна ў Маскве адбыўся кангрэс прафсаюзаў краін СНД. Аб яго рашэннях расказвае ўдзельнік кангрэса, старшыня савета Аб'яднаных галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці А. МАРТЫСЮК.**

— Павінен заўважыць,— гаворыць Аляксандр Пятровіч,— што напярэдадні кангрэса адбыўся пленум савета Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў, які прыняў рашэнне аб рэфармаванні яе ў міжнароднае прафсаюзнае аб'яднанне. Яно прадыктавана тым, што большасць прафсаюзных арганізацый палічыла неабходным захаваць узаемасувязі ў прафсаюзным руху незалежных дзяржаў, стварыць адзіны прафцэнтр.

*— Але ж нешта падобнае ўжо было...*

— Так, але размова, вядома ж, не ідзе аб звароце да таталітарнага мінулага, размова — аб аб'яднанні на новай дэмакратычнай аснове, з улікам цяперашніх сацыяльна-палітычных рэалій. А яны такія, што ў адзіночку сёння не выбрацца з сацыяльнай багны. У працоўных незалежных сёння дзяржаў накапілася многа агульных праблем. У гэтых умовах прафсаюзы павінны не рваць, а ўмацоўваць сувязі паміж працоўнымі розных дзяржаў.

Неабходнасць захавання пэўнага адзінства ў прафруху ў нашых дзяржавах не толькі дыктуецца ўзнікшай сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у іх, але і пацвярджаецца вопытам іншых краін, асабліва Еўрапейскай канфедэрацыі прафсаюзаў.

*— Аляксандр Пятровіч, кангрэс адобрыў гэтыя перайтварэнні?*

— У дэкларацыі аб рэфармаванні УКП, прынятай кангрэсам, гаворыцца, што з мэтай умацавання агульнай эканамічнай і сацыяльнай прасторы незалежных дзяржаў, супрацоўніцтва прафсаюзаў па абароне правоў працоўных, вучнёўскай моладзі і пенсіянераў у сферы працоўных адносін, іх сацыяльна-эканамічных і духоўных інтарэсаў, садзейнічання ахове правоў і гарантый дзейнасці прафсаюзаў, умацавання міжнароднай прафсаюзнай салідарнасці, зыходзячы з абвешчаных аб'яднаннямі прафсаюзаў прынцыпаў незалежнасці і прызнаючы іх права на самастойнасць, — уваходзячыя ў УКП членскія арганізацыі прынялі рашэнне аб рэфармаванні яе на добраахвотнай аснове ў міжнароднае прафсаюзнае аб'яднанне.

*— Хто падпісаў дэкларацыю аб рэфармаванні УКП?*

— Яе падпісалі прадстаўнікі 38 прафсаюзаў і іх аб'яднанняў, лідэры прафсаюзаў Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі, Таджыкістана, Узбекістана. У ролі назіральнікаў аказаліся прадстаўнікі Азербайджана, Грузіі, Малдовы, Туркменіі і Украіны.

У адпаведнасці з новым статутам вышэйшым органам УКП з'яўляецца ствараемы штогод кангрэс, а штодзённую работу вядзе Выканаўчы камітэт. І кангрэс, і выканком фарміруюцца на прынцыпе парытэтнага прадстаўніцтва прафцэнтраў дзяржаў і галіновых прафсаюзаў, іх аб'яднанняў.

*— Якімі будуць першыя крокі Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў у новай яе якасці?*

— Як паведаміў нова выбраны старшыня В. Шчарбакоў, перш за ўсё неабходна заняцца падрыхтоўкай хартыі асноўных правоў і гарантый працоўных СНД. Пазначана кола іншых неадкладных задач: гэта гарантыі ў галіне занятасці насельніцтва ў рамках СНД, узгадненне пазіцый па праблемах прыватызацыі, заработнай платы, тарыфных пагадненняў, у галіне аховы працы і здароўя людзей. Як міжнароднае прафсаюзнае аб'яднанне УКП мае намер будаваць сваю работу ў адпаведнасці з агульнапрынятымі нормамі міжнароднага права на гарантыях поўнай самастойнасці і роўнасці правоў прафсаюзаў, што ўваходзяць у яе, і іх аб'яднанняў. Яна адкрыта для іншых аб'яднанняў прафсаюзаў дзяржаў, а таксама міжнародных галіновых аб'яднанняў прафесіянальных саюзаў.

Усеагульная канфедэрацыя прафсаюзаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў гатова працягваць супрацоўніцтва з міжнароднымі прафсаюзнымі аб'яднаннямі, спецыялізаванымі ўстановамі ААН і іншымі міжнароднымі ўстановамі і арганізацыямі, якія займаюцца сацыяльна - эканамічнымі, гуманітарнымі і іншымі пытаннямі.

**Гутарку вёў
В. РАМАНОЎСКІ.**

## НА СКРЫЖАВАННЯХ ЛЁСУ

# «ДА СЁННЯ ПОМНЮ НУМАР МІНСКАГА ТЭЛЕФОНА...»

Будучы нядаўна па службовых справах у Хельсінкі, я даведаўся, што да гэтага часу невядомы мне мастак, вялікі сябра Беларусі, жыве прыкладна за сто кіламетраў ад сталіцы Фінляндыі, у горадзе Хямеенліна. Адлегласць параўнаўча невялікая—крыху больш гадзіны язды ў напрамку Тамперэ. Да адпраўкі парома ў Талін, якім беларуская дэлегацыя вярталася на радзіму, заставалася пяць гадзін. Вырашаем пусціцца ў дарогу.

І вось я і двое маіх калег — В. Шчасны і А. Уласенка — уваходзім у светлую кватэру. Тры невялічкія пакойчыкі, кухня. Навокал графіка, мальберты, кнігі. Чыста, утульна. У прыгожых вазах з простага шкла — кветкі. Няяркія, паўночныя, але нейкія асабліва мілыя ў непагодную пару наступаючай вясны.

З-за пісьмовага стала, што стаіць ля акна, падымаецца і ідзе нам насустрач пажылы і зусім сівы чалавек — мастак Аляксандр Ахола-Вало. Разумны прыжмур добрых вачэй. Не па гадах лёгкая паходка. Кранальна прагучала яго прывітанне на беларускай мове: «Дзень добры. Сардэчна вітаю!» У галаве прамільгнула: «Вось так. Прайшло 62 гады пасля таго, як пакінуў Беларусь, а ўсё помніць...»

Усаджвае і вельмі карэктна прапаноўвае праграму з дзевяці пунктаў. Дорыць часопіс «Siksi» з артыкулам аб ім і біяграфічнай даведкай. На першай старонцы, крыху вышэй фатаграфіі, надпіс па-беларуску: «Жадаю кваткавання сувязі між Беларусіей і Фінляндыей. Ахола-Вало. Хемэлінна, 26.03.92 г.» Паказвае ўласнаручна начэрчаны план горада Віцебска 1921 года (зроблены 4 студзеня 1992 года), на які нанесены 82 памятныя пункты: «Вось тут вучыўся ў прафесара Пэна», «Вось тут стаяў дом, дзе жыў М. Шагал», «Вось тут сустракаліся з ім раней» (А. Ахола-Вало двойчы жыў у Віцебску да ад'езду за мяжу). «Вось тут, за вакзалам, закладвалі парк». Расказвае аб сустрэчах з віцебскімі мастакамі. Цёпла гаворыць пра Заіра Ісакавіча Азгура: «Дружылі, спрачаліся, дзяліліся апошнімі карткамі на хлеб». З. Азгур у свой час зрабіў скульптурны партрэт мастака.

Хто ж ён такі, Ахола-Вало? Чаму слова «Беларусь» выклікае ў яго слёзы радасці і болю? Чаму пры сустрэчы з ім адчуваеш шчырасць і непаддзельнасць пачуццяў, адчуваеш сустрэчу рамантычнага мінулага і жорсткага, грубога, крайне палітызаванага сучаснага? Таму што перад намі Рамантык. Мастак. Беларус, магчыма, больш, чым многія з нас. Чалавек, які шчыра палюбіў Беларусь і да сённяшняга дня рамантызуе яе.

Але гэта — хутчэй за ўсё першапачатковая і не самая верная ацэнка. Усё прасцей і ў той жа час больш складана. Перад намі надзіва тонкі і таленавіты чалавек, які сваім жыццём, сваёй творчасцю даказвае, як трэба жыць, каб і ў 92 гады захаваць шчырасць пачуццяў, вялікую энергію і працаздольнасць, унікалькую памяць. Ён захапляецца філасофіяй. Ён аўтар арыгінальнай канцэпцыі выхавання духоўна цэльнага чалавека, а таксама заснавальнік афіцыйна зарэгістраванай у Фінляндыі арганізацыі, якая прапагандуе культ маралі і дабра.

Адзін з першых пунктаў праграмы сустрэчы — расказ аб творчасці, мінскім і віцебскім перыядах жыцця. Мастак усаджвае нас і пачынае паказваць загадзя падрыхтаваныя гравюры, графічныя лісткі. Да гэтага часу на стале ляжыць невялікая кніжачка 1927 года інкварта, дзе запісаны ўсе без выключэння дзве тысячы работ мастака, выкананыя ў Беларусі: назва, хто заказваў і калі, дзе паказвалася ці публікавалася (вокладка ці ілюстрацыі кніг). Гартаю яе, і проста ўзрушаны — перада мной па сутнасці хроніка культурнага жыцця рэспублікі, хроніка беларускай паэзіі, хроніка беларускага кнігавыдання.

Не буду ўдавацца ў дэталі і тонкасці: іх старанна і сумленна прааналізавала беларуская даследчыца Л. Налівайка ў артыкуле «Графіка А. П. Ахола-Вало». Кінулася ў вочы багацце кантактаў з беларускімі паэтамі, афармленне мноства зборнікаў. Урэзаліся ў свядомасць яго словы: «Да сёння помню нумар майго мінскага тэлефона — 10-02. Жыў на вуліцы Малая Татарская, там, дзе цяпер ваш Палац спорту. З раніцы не мог працаваць, пастаянна званіў тэлефон. Адбою ад заказаў не было. Крыху пазней атрымаў вялікую майстэрню. У знак удзячнасці за афармленне аднаго з салідных часопісаў».

З асаблівай цеплынёй і нейкім унутраным гонарам расказвае мастак аб сваім дзецішчы — лінагравюры «Артысты балета». Яшчэ б! Далёка не кожнаму цікаўнаму прыхільніку жывапісу вядома, што першая лінагравюра ў Еўропе нарадзілася ў нас, у Мінску, у 1937 годзе. Арыгінал у мяне перад вачыма, у кватэры мастака.

Слухаю і гляджу. стаіўшы дыханне, але не магу стрымацца ад пытанняў. Уласна, выходжу на тое патаемнае, дзеля чаго і прыехаў. «А ці захаваўся партрэт Янкі Купалы?»—«Захаваўся, але знаходзіцца не тут, а ў Швецыі, як прыкладна яшчэ 20 партрэтаў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама вялікая бібліятэка ў чатыры тысячы тамоў, сярод якіх ёсць беларускія выданні». З 1946 года мастак жыў у Швецыі, дзе да гэтага часу мае дом. Вярнуўся ў Фінляндыю ў 1982 годзе. « З кім часцей за ўсё сустракаліся, з кім сябравалі?» Называе імёны К. Чорнага, А. Александровіча, К. Крапівы. Пісаў з натуры Алеся Чарвякова. Адгукаецца аб ім з вялікай павагай, як аб чалавеку, якога шануюць у колах нацыянальнай інтэлігенцыі, і інтэлігенце па сваёй сутнасці.

Ахола-Вало — аўтар больш за 300 інтэр'ераў памяшканняў самых вядомых будынкаў у Фінляндыі і Швецыі. Па яго праектах пабудавана звыш 30 дамоў, у тым ліку адзін з павільёнаў Першай Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасці 1930 года (на жаль, згарэў у гады апошняй вайны).

Неяк нечакана выходзім на маскоўскі, санкт-пецярбургскі перыяды жыцця, выходзім да вытокаў. У чатыры гады таленавіты хлопчык хутка асвоіў рускую мову. «У 8 гадоў руская настаўніца Кузьміна чытала мне курс... чысталогіі». У той жа час вывучаў адначасова некалькі моваў, у тым ліку нямецкую і французскую.

Адно з незабыўных уражанняў дзяцінства — «крывавая нядзеля» студзеня 1905 года. Будучы мастак апынуўся ў той дзень на Сенацкай плошчы і бачыў усё. Падаючыя, акрываўленыя людзі, страляючыя салдаты, узнятыя на дыбкі коні навечна засталіся ў дзіцячай памяці, глядзяць на нас і сёння з адной з гравюр мастака, створанай у 20-я гады ў Мінску.

Асобая гаворка пра архівы Інбелкульта. Копіі з матэрыялаў, што знаходзяцца ў мастака, зняла Л. Налівайка. Значыць, вяртаюцца на радзіму. Наколькі я зразумеў, яны ў асноўным прысвечаны падзеям канца 20-х гадоў. У асабістым архіве мастака ёсць і іншыя матэрыялы, што тычацца Беларусі, напрыклад, пісьмы многіх пісьменнікаў і паэтаў.

Мастак паказвае некалькі экземпляраў часопісаў, паштовак, на якіх змешчаны яго графічныя работы. У апошнія гады малюе толькі кветкі. Захоўвае кнігу ўспамінаў З. Азгура з кранальным надпісам. Імгненна нараджаецца прапанова: «Ці няма ў вас жадання напісаць некалькі слоў Заіру Ісакавічу?» Мастак садзіцца за стол і праз некалькі секунд у мяне ў руках часопіс з надпісам: «Дарагі Заір! Прымай маё шчырае прывітанне. Алесь Ахола-Вало. 26.03. 92 г.»

І зноў нетаропка цячэ гаворка. Я ўважліва слухаю расказ пра тое, як ствараліся партрэты выдатных людзей нашага часу. Але ёсць і крыўды, нават горыч пастаянная, што захавалася да гэтага часу. Гадоў восем назад намячалася выстаўка ў Мінску, але з абавязковай умовай — папярэдне прадставіць фатаграфіі 80 плануемых да экспанавання карцін. Гаворыць і сёння аб гэтым з абурэннем, бачачы ў такім падыходзе элемент перастрахоўкі і своеасаблівай цэнзуры. А вось у Адэсе ніхто нічога не патрабаваў, і выстаўка адбылася. У знак удзячнасці мастак падарыў гораду больш 30 сваіх работ...

Ёсць яшчэ адна «стрэмка» ў сэрцы мэтра. Успамінае пра тое, як быў узрушаны, калі прачытаў у Швецыі ў адной з энцыклапедый, што таварыства «Прамень», створанае пры яго ўдзеле, было мадэрнісцкім і антынародным па сваёй сутнасці. Амаль са слязамі гаварыў аб гэтым, падкрэсліўшы, што несправядлівая інфармацыя так узрушыла яго, што быў блізкі да самагубства. «Хочаце, каб усё, што ёсць у мяне, усе мае работы вярнуліся ў Беларусь, каб я завяшчаў ёй іх, выпраўце гэтую чорную несправядлівасць».

Мастак і яго дзве мілыя памочніцы — адна сакратар, другая домработніца не адпусцілі, не напаіўшы чаем, не пачаставаўшы здобай і мёдам.

На сцяне, за маёй спіной, ззяла буйнымі фарбамі пастэль, адна з апошніх работ мастака. Яркая, сакавітая зяляніна і раздолле блакіту, блакітных кветак. Чамусьці адразу ўспомніліся Багдановічавы васількі, жыта, роднае блакітнае неба Беларусі, якое бывае такім крайне рэдка — толькі ў самую ясную летнюю пару. Я нахіліўся да прыгожай рамачкі. Справа ўнізе стаялі дата і парадкавы нумар гэтага твора мастацтва: 9412...

Спадзяюся, слоў больш не трэба. Хаця неабходна ўдакладненне. Прозвішча мастака — Ахола, а Вало — творчы псеўданім, што азначае ў перакладзе з фінскага «святло». Так яго звалі ў Беларусі ў далёкія 20-я гады.

**Пётр КРАЎЧАНКА,**
**міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь.**




*Aurinko ja rakkaus seppelöivät ihmisyyden luomaan maalle elon pyhän, terveen, uuden.*

*Sen luomisvoimaa ei enää pimelän tuhot estää voi, kun maan kansakunnat toiveitten alttarille valonsa toi.*

**НА ЗДЫМКУ: адна з графічных работ А. АХОЛА-ВАЛО.**

# ЗАКЛІКАЮ ДА ТАЛЕРАНТНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Беларусі, аб чым гаварыць яшчэ вельмі-вельмі рана. А калі чалавек лічыць, што будучы грэка-католікам ён зможа лепш служыць Богу і больш карысці прынесці свайму народу, то давайце не будзем яго асуджаць, а прадаставім гэтае права Усявышняму.

С. Шчэрба піша, што лекцыя Ю. Хадыкі «Вуніяцкае мастацтва», прачытаная ў сярэдняй школе, «не прынясе плёну міру і дабрабыту беларускаму народу, а толькі павялічыць рэлігійны закалот». Не ведаю, як можа мастацтва, а тым больш хрысціянскае, прывесці да спрэчак. Ну а калі ж кіравацца вашай логікай далей, дарагі брат у Хрысце С. Шчэрба, то атрымаецца, што ўсе творы вуніяцкага мастацтва трэба было б схаваць ці знішчыць. А ці не гэта рабілі царскія чыноўнікі ў XIX—пачатку XX стагоддзяў і бальшавіцкія варвары амаль усё XX стагоддзе?! Да таго ж беларускае грэка-каталіцкае мастацтва ёсць частка ўсёй найбагацейшай беларускай культуры. Думаю, для вас не будзе навіной той факт, што прыйшлося б зруйнаваць і Сафійскі сабор у Полацку, бо, знішчаны ўзрывам пораху ў 1710 годзе, праз 28 гадоў ён быў нанава адбудаваны менавіта уніятамі і стаў помнікам уніяцкага дойлідства.

У адказ на хлусню С. Шчэрбы ў яго допісе я скажу, што на Беларусі ніколі не было і няма зараз ніводнага місіянера-уніята, «вышкаленага Ватыканам». Усе грэка-каталіцкія святары (а іх усяго некалькі чалавек) ёсць карэнныя беларусы, толькі адзін па нацыянальнасці ўкраінец. Усе яны, у адрозненне ад іншых святароў, поўнасцю валодаюць беларускай мовай і набажэнствы ладзяць толькі на ёй. Аўтар допіса таксама піша, што беларускія уніяты «падтрымліваюцца польскімі католікамі, польскімі ксяндзамі». Трэба сказаць, што беларускія уніяты не прызнаны афіцыйна святым Прастолам (не маюць права на сваю царкоўную адміністрацыю), а адсюль вынікае, што іх не падтрымлівае ні Украінская Грэка-Каталіцкая Царква, ні беларускі, ні тым больш польскі, касцёл. Дарэчы, да гэтага часу беларускія уніяты не маюць нават свайго храма. І калі б не больш-менш цярпімае стаўленне да іх дзяржаўнай адміністрацыі (нарэшце заўважылі!), дык гэткае становішча яшчэ цягнулася б няведама колькі.

І ў канцы я хацеў бы заклікаць усіх чытачоў захоўваць у сабе такую рысу характару беларуса, як талерантнасць.

Гэта ўсё, што я хацеў бы сказаць у абарону беларускіх грэка-католікаў (уніятаў). Спадзяюся, што рэдакцыя ўважліва аднясецца да майго пісьма і, кіруючыся імкненнем да справядлівасці і плюралізму думак, знойдзе магчымасць апублікаваць яго на старонках газеты.

Удзячны за ўвагу.
Усяго добрага.

**Ігар ІВАНОЎ.**

## ХТО МЫ ТАКІЯ?

# ПАШУКАЙ СВАЙГО «Я»

СВАЮ размову я хачу пачаць з таго, што падкрэслю: усе мае словы і думкі з'яўляюцца маімі асабістымі, гэта мой погляд на праблему. Мне здаецца, што нядрэнна было б усім навучыцца браць адказнасць на сябе за свае словы і пачынаць выказванне так: «Я думаю, я разважаю...». На жаль, «яканне» ніколі не падтрымлівалася ў нашай культуры, дзе ўсё было наша і гаварыў я ад імя ўсіх, дзе існавала і была карыснай калектыўная, а не асабістая думка. Вось так, на мой погляд...

У апошні час мы часта разважаем аб сваёй нацыянальнай прыналежнасці. І гэта не выпадкова: зараз парушаны ўсе сувязі паміж чалавекам і грамадствам. А між іншым, кожнаму з нас трэба бачыць сябе ў нейкай сістэме чалавечых узаемаадносін. У сацыяльнай псіхалогіі ёсць такі тэрмін — рэферэнтная група. Ён абазначае рэальныя ці ўмоўныя сацыяльныя групы, з якімі індывід параўноўвае сябе як з эталонам і на нормы якой ён арыентуецца ў сваіх паводзінах. Напрыклад, я з'яўляюся членам сям'і, я адношу сябе да кампаніі сваіх сяброў, я адчуваю сябе членам групы студэнтаў, якія вучацца разам са мною, але я таксама адношу сябе і да нейкай вялікай сацыяльнай групы, якая аб'ядноўвае шмат людзей па сацыяльнай прыкмеце (пол, узрост, нацыянальнасць, вера, палітычная прыналежнасць і г. д.). Ну а цяпер пабачым, як атрымліваецца ўсё на самай справе: з сям'ёй усё, дзякуй Богу, добра, з сябрамі таксама, з калегамі-студэнтамі — так-сяк, але нешта ёсць, а вось як быць з так званымі вялікімі сацыяльнымі групамі.

Да апошняга моманту большая і лепшая частка з нас была камуністамі, астатнія рыхтаваліся да гэтага ганаровага звання ў камсамоле, у піянерыі ці ў краіне акцябрат. Ну, была яшчэ маленькая частка тых, хто не адносіў сябе нікуды, але ўсе, я падкрэсліваю, усе маглі з гонарам зваць сябе савецкімі людзьмі. Зараз са старонак усіх газет і часопісаў, з блакітных экранаў тэлевізараў мы чуем і бачым толькі адно: 70 год нас выхоўвалі як «саўкоў», але сёння мы ўсё зразумелі, і мы не «саўкі», мы не бездухоўныя жывёліны, мы не часткі дзяржаўнай машыны, мы не камуністы, мы не, не і г. д.

А вось калі не ў адмоўнай форме, то хто мы? Саюза больш няма, і савецкіх людзей таксама. Мы разбегліся па розных краінах. Канешне, можна ўступіць у нейкую партыю і адчуваць сябе барацьбітом за незалежнасць і справядлівасць. Але, напрыклад, у маёй галаве ўсе партыі ўжо пераблыталіся са сваімі праграмамі, абяцаннямі і сцвярджэннямі. Не, я не за тое, каб была адна партыя. Але са сваім палітычным выбарам я пакуль пачакаю. Вось і атрымліваецца, што мне вельмі цяжка аднесці сябе да нейкай вялікай сацыяльнай групы.

Такім чынам, застаецца адна вялікая сацыяльная група, з якой я змагла б сябе параўнаць,— гэта мая нацыя, мой народ. Нездарма пачуццё нацыянальнасці павінна было знікнуць у працэсе «збліжэння» і аб'яднання ўсіх нацый у вялікі, магутны савецкі народ. Але нацыянальнасць — гэта тое, што нельга парушыць ці забараніць, яна ёсць аб'ектыўная з'ява, і яна будзе існаваць незалежна ад нашых жаданняў. Пачуццё нацыянальнасці — магутная сіла, і карыстацца ёю трэба з вялікай засцярогай. Сёння людзі зразумелі, што кожны з іх увасабляе ў сабе частку сваёй нацыі, свайго народа.

Але не ўсе былі задаволены тым, што распалася «вялікая сям'я савецкіх народаў». У апошні час нейкая частка людзей (на мой погляд, гэта тая, што лічыць сябе сапраўдным савецкім народам неіснуючай краіны) заяўляе так: каўказскія жыхары, зразумела, адрозніваюцца ад нас, а вось мы, беларусы, чым мы адрозніваемся ад рускіх? Украінцы хоць амаль што ўсе мову сваю ведаюць, а мы як? Калі мяне спыталі так першы раз, я разгубілася: як адказаць? І сапраўды, з мовай у нашай рэспубліцы становішча вельмі цяжкае.

Я адкрыла літаратуру па этнапсіхалогіі (гэта галіна псіхалогіі, якая вывучае псіхалагічны бок жыцця розных народаў). І вось што я там прачытала: «Прыналежнасць чалавека да нацыянальнасці вызначаецца не тым, на якой мове ён гаворыць, ці месцам яго жыхарства, а тым, да каго ён сябе адносіць, з якой нацыянальнасцю ён сябе ідэнтыфікуе». Значыць, я магу называць сябе беларускай, нават калі і не ведаю беларускай мовы, але пры гэтым мая нацыянальная самасвядомасць дазваляе мне адчуваць духоўную блізкасць да беларускага народа.

У дзяцінстве ды і ў юнацтве я адчувала сваю прыналежнасць да савецкага народа, але я заўсёды ведала, што я беларуска. Мая прыналежнасць да беларускага народа была як бы ў падсвядомай сферы і калі-нікалі прарывалася ў свядомасць. Нацыянальныя пачуцці асабліва абвастрыліся пасля чарнобыльскай катастрофы. Я як бы інстынктыўна адчула пагрозу майму народу, яшчэ нічога не ведаючы са сродкаў масавай інфармацыі аб памерах напаткаўшай нас бяды.

Тады я вучылася ў восьмым класе. Большасць дзяцей летам вывозілі з горада (я жыла ў Гомелі). Выехала і наша школа. Летам 1986 года мы адпачывалі ў Саратаўскай вобласці, а летам 1987 — у Краснадарскім краі. І вось я хачу падзяліцца з вамі сваімі дзіцячымі ўражаннямі. У Саратаве размясцілі нас добра, харчаванне было неблагое. Але калі мы наведаліся ў суседнюю вёску, то былі здзіўлены не вельмі ветлівым прыёмам. Яшчэ больш нас здзівіла адсутнасць кветак, якіх так шмат у нашых беларускіх вёсках. Уразіла нас і тое, што гніюць у садах сельскіх гаспадароў яблыкі, грушы.

У наступным годзе мы вельмі радаваліся, калі даведаліся, што паедзем у Краснадарскі край. Але тут чакалі нас непрыемнасці. Высадзілі з цягніка пасярод поля. Дзве гадзіны мы чакалі, каб хто-небудзь звярнуў на нас увагу. К вечару прывезлі нас у лагер — былы лагер працоўнага перавыхавання з калючым дротам вакол тэрыторыі. Харчаваліся ў сталоўцы, і атрымлівалася так, што хто быў першы, той быў пад'еўшы. На працу павезлі зранку на наступны дзень. Працавалі мы на вінаградніках, але не збіралі багаты ўраджай, а палолі вінаград, расліны, якія мы вырывалі, былі вышэйшымі за нас саміх.

Сонца пякло бязлітасна. Норму выконвалі напалову, а калі і менш, таму і зарабілі за 3 тыдні па аднаму рублю і сорак капеек. Паколькі ў сталоўку не заўсёды паспявалі першымі, то знайшлі поле з морквай. Калі мы з'елі яе, то ўбачылі маленькую шыльдачку: «Увага! Атручана нітратамі! Есці забаронена!» Усё скончылася тым, што мы ўсе захварэлі. Тады я адчувала несправядлівасць у адносінах да нас, дзяцей, якім і так не вельмі пашанцавала ў жыцці. Я была ўпэўнена, што ў нас на Беларусі сустрэлі б дзяцей па-іншаму.

Для чаго, скажаце вы, успомніла я падзеі пяцігадовай даўнасці? Я згодна, што гэта ўсё адзінкавыя выпадкі, з якіх нельга рабіць абагульняючых высноў. Але ж ці не на такіх прыкладах робяцца нацыянальныя стэрэатыпы, ад якіх, ох, як цяжка адмаўляюцца з гадамі. І вось атрымліваецца, што вобраз свайго народа ўзнікае ў супрацьпастаўленні з іншым народам: мы не такія, як яны, мы лепшыя за іх. А можа трэба падысці да гэтага пытання з другога боку і пачаць сваё нацыянальнае нараджэнне з таго, каб зазірнуць у глыбіню сябе і адшукаць там сваё «я».

Нічога, што вы пакуль што не ведаеце мовы, гісторыі і культуры свайго народа. Калі вы сапраўды адчуеце сябе духоўна звязаным са сваім народам, у вас з'явіцца патрэба і магчымасць вывучыць сваю мову, сваю гісторыю, сваю культуру. І гэта будзе не патрэба часу ці ўрада, а асабістая патрэба, асабістае жаданне. Толькі прапусціўшы яго праз сябе, перажыўшы, асэнсаваўшы і прыняўшы яго, вы зразумееце, што трэба вам рабіць. У вас абудзіцца цікавасць да пазнання шляху свайго народа, таму што праз пазнанне мінулага вы зразумееце свой сённяшні стан.

І вось таму мне здаецца, што пошукі сваёй нацыянальнай прыналежнасці — гэта не даніна модзе і не нейкае вар'яцтва, як гэта жадалі б разглядаць многія, а неабходны працэс самавызначэння. Таму не выпадкова ён закранае ў першую чаргу маладосць. Зараз мы вельмі паспяхова разбурылі ўсе ідэалы мінулага, але гэта не ўсё, трэба пабудаваць новыя. Калі мы сцвярджаем, што мы не бездухоўныя, то давайце знойдзем гэтую духоўнасць праз знаходжанне свайго «я» як часткі свайго народа.

Ірэна БЕТАНАВА.

## А ЖЫЦЦЁ ПРАЦЯГВАЕЦЦА



# БЫЎ БЫ ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ...



**26 красавіка. Першы дзень светлага Уваскрэсення Хрыстова. Сёлета гэтая дата супала з днём журботным і трагічным — шостай гадавінай выбуху на Чарнобыльскай АЭС.**

**Адным з самых «брудных» раёнаў у Беларусі лічыцца Чэрыкаўскі Магілёўскай вобласці. Не раз прыязджалі сюды камісіі з былога СССР і міжнародныя. Не верылася, што так далёка ад Чарнобыля можа быць такі высокі ўзровень радыяцыі.**

**Цяпер вёскі Малінаўка, Чудзяны набылі ўжо сумную вядомасць: у некаторых месцах узровень радыяцыі тут дасягаў 1 000 мрг/гадзіну. Хутка знікнуць радыеактыўны бруд не мог, тым не менш некаторыя, нягледзячы ні на што, засталіся жыць у Чудзянах: аруць зямлю, выпальваюць траву, рыхтуюцца да пасяўной. Па словах намесніка Старшыні Савета Міністраў — старшыні Дзяржкамчарнобыля Рэспублікі Беларусі Івана Кеніка, цяпер амаль 30 працэнтаў жыхароў чарнобыльскай зоны катэгарычна адмаўляюцца пераязджаць куды б ім ні прапанавалі. Тры тысячы кватэр у бяспечных раёнах чакаюць чарнобыльскіх навасёлаў, а яны не хочуць пакідаць сваіх месцаў. Спасылаюцца нават на правы чалавека, толькі каб не чапалі іх.**

**Зусім побач з Чудзянамі экскаватарам зносяць пакінутыя дамы, засыпаюць зямлёй усё, што засталося на двары. Навейшыя ж пабудовы стаяць без вокнаў, без дзвярэй. Можна толькі здагадвацца, дзе яны ўстаноўлены цяпер: усё, што можна сцягнуць, раскрадаецца і такім чынам трапляе ў чыстыя зоны.**

**Ад Чэрыкава да пасёлка Майскага, дзе жывуць перасяленцы, дарога пралягла праз вёскі Чудзяны, Малінаўка, Баравая, што лічацца выселенымі. У Майскім таксама рыхтуюцца да вясны: аруць зямлю, развозяць гной. Перасяленцы з Майскага ходзяць у суседнія вёскі, каб зірнуць на пакінуты дом, дагледзець могілкі родных і блізкіх. А на пытанне, дзе мэбля з былога дома, адна з бабулек шчыра адказала: «У кватэры ў Майскім».**

**Калі бачыш гэтых людзей, міжволі думаеш: звыкліся яны з жыццём у зоне, на «бруднай» зямлі, і, падобна, усё радзей задумваюцца, чым гэта ім пагражае. Жывуць днём сённяшнім. Так лягчэй...**

**НА ЗДЫМКАХ: і на забруджанай зямлі рыхтуюць глебу да сяўбы ячменю; Галіна ЧМУРОВА і Ефрасіння ХОМЧАНКА ўсё жыццё пражылі ў Чудзянах. Цяпер жывуць у Майскім, але часта бываюць у вёсцы, дзе дамы іх знесены; жыццё ў Майскім працягваецца.**

**Фота У. ШУБЫ.**



# «ЛІСТОЎ ЧАКАЮ АД СЯБРОЎ», або СЛОВА ПРА СЯРГЕЯ ПАНІЗНІКА

ВЯДОМАМУ беларускаму паэту, празаіку, публіцысту, перакладчыку, журналісту, складальніку папулярных зборнікаў, добраму чалавеку і сейбіту братэрства і дружбы паміж народамі Сяргею Сцяпанавічу Панізніку ў гэтым годзе спаўняецца 50 вёснаў.

У маё жыццё ён увайшоў зусім нечакана. Жылі мы ў адным вайсковым інтэрнаце і не ведалі адзін аднаго. Але аднойчы, калі я паставіў на прайгравальнік пласцінку з беларускай песняй, ля дзвярэй майго пакоя хтосьці прыпыніўся. Так я спаткаўся з карэспандэнтам дывізіённай газеты «Патриот Родины» лейтэнантам Сяргеем Панізнікам. К часу нашага знаёмства ў яго ўжо выйшаў першы паэтычны зборнік «Кастры Купалля» (1967).

Новы мой знаёмы вельмі падзівіўся, што я слухаў беларускую песню ў той час, калі гэта магло для слухача закончыцца вельмі дрэнна. Пры П. Машэраве ішоў моцны наступ на беларускую мову, зачыняліся апошнія беларускія школы, ды і сам ён, як я памятаю, ніколі не гаварыў на роднай мове. Усюды былі сексоты, асабліва моцна яны праніклі ў вайсковы арганізм. Але я быў малады і аб гэтым тады вельмі не задумваўся. З таго часу мы пачалі сустракацца, а потым і пасябравалі.

Нарадзіўся Сяргей Панізнік 10 мая 1942 года ў вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна, што на Віцебшчыне. Родная мясціна будучага паэта была вельмі прыгожая і маляўнічая, ужо год была змардавана і апустошана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У сваім вершы «З біяграфіі» паэт піша:

**Краса красавіка**
**прапала ў снезе траўня.**
**Быў год—Год рысака.**
**Ішла вясна змагання.**

**Радзіўся ў крыгалом.**
**Наперадом—прырода.**
**І калаціўся гром**
**Сорак Другога года.**

Чым адметны 1942 год, акрамя вайны, дык гэта тым, што тады нарадзіўся Пол Макартні, а на небасхіле беларускім, акрамя зорачкі Веры Вярбы, з'явіўся і агеньчык Сяргея Панізніка. Гэты агеньчык і па сённяшні час блішчыць у сузор'і Цяльца. Як кажуць астролагі, хто нарадзіўся пад ім і яго прафесія звязана з мастацтвам,—той выканае ўсе свае творчыя задумы. Так гэта ці не, хто ведае. Але прыходзіцца дзівіцца не таму, што ў чалавека ёсць талент, задумы і яны на паперы знайшлі сваё адлюстраванне, а сярод слухачоў—прыхільнікаў, трэба тое, што ёсць у цябе, данесці ў кнігах у першую чаргу да жыхароў сваёй зямлі, а калі твае зярняткі ўзыдуць на роднай глебе добрым ураджаем, падзяліцца гэтым з сваімі суседзямі—рускімі, украінцамі, латышамі, літоўцамі, чэхамі, палякамі... На гэтых мовах таксама загучалі лепшыя творы С. Панізніка. А калі што ёсць адметнае ў братоў-народаў, то чаму іх слова не данесці да роднай зямелькі?! І мы чытаем цудоўныя пераклады Сяргея Панізніка з украінскай, латышскай, чэшскай і іншых моў.

У 1972 годзе з паліц кнігарняў вельмі хутка знік толькі што выдадзены паэтычны зборнік С. Панізніка «Палявая пошта». Нельга было не адзначыць, што гэтая кніга адразу вызначыла маладога паэта. Ён шчыра апеў у ёй рамантыку воінскай службы, любоў беларускага народа да людзей у пагонах. Многія вершы з «Палявой пошты» пераклаў на рускую мову вядомы паэт Дракахруст. Трэба зазначыць, што ў кнізе нічога не было выдумана. Аўтар яе насіў салдацкія боты з 1962 года, потым вучыўся і закончыў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, дзе атрымаў у 1967 годзе лейтэнанцкія пагоны і добрую спецыяльнасць—журналіста.

Служба—гэта не мёд. Палявыя выхады, вучэнні, стрэльбы, ваджэнне баявых машын, паверкі і праверкі—усё гэта не пакідала ніводнай вольнай хвіліны. Але ёсць яшчэ ноч. І ў гэтыя часіны нараджаліся вершы, якіх хутка набралася ўжо на новы зборнік. І вось перада мной лёг вялікі стос папер з вершамі Сяргея Панізніка. Яны ўсе мяне цікавілі, хвалявалі. Упершыню я быў іх першым «рэдактарам». Але я быў здзіўлены, калі праз некалькі месяцаў Панізнік сказаў мне, што ён для новай кнігі адбярэ толькі трэць-чвэрць вершаў. А калі я пазнаёміўся з усімі вершамі, то да мяне была толькі просьба знайсці назву гэтаму зборніку. Некалькі тыдняў кожны дзень я прапаноўваў адно найменне за другім, і ўсё было не тое. Знайшоў ён яго сам і неяк раптоўна—«Крона надзеі» (1975), рэдагаваў гэтую кнігу Рыгор Барадулін, з якім перад выданнем зборніка аднойчы і пазнаёміў мяне Сяргей. Колькі літаратараў, мастакоў прыйшлося потым пабачыць у гасціннай і ветлівай кватэры Панізніка!

А яшчэ ў Сяргея была адна цяга—пехам падарожнічаць па роднай зямлі. Колькі разоў ён парушаў мае планы, але ўзамен даваў задавальненне ад новых знаёмстваў і відовішчаў. З той пары засталіся ў мяне фотаздымкі, якія вельмі прафесійна рабіў Панізнік. Асабліва шмат засталося іх у мяне са славутай Нарачы. Магчыма, гэта ў той час і нарадзілася ў яго «Нарачанская песня»:

**...Кветку шчасця ля соснаў**
**мы знайшлі ў цішыні.**
**З чарацінак росы**
**на мяне страсяні.**

**На сярэбраны човен**
**я цябе пазаву...**
**Да сваей нарачонай**
**цераз Нарач плыву.**

У друкарні ў Мінску набіралася «Крона надзеі», а ў паветры я ўжо адчуваў і для сябе, і для Панізніка подых навальніцы. Начальнік палітычнага аддзела Аляксандр Аўчыннікаў рыхтаваў спачатку для мяне, а потым і для яго расправу. Але мне ён нічога не мог зрабіць. І, ад граха далей, я паехаў у Забайкалле. Тады ўсю моц свайго палітычнага аддзела начальнік кінуў на безабароннага Панізніка, які на ўсё меў сваё разуменне, погляды і які даволі рэзка крытыкаваў вялікае начальства за двудушнасць, падман, крадзеж народнага дабра... Але ў арміі чалавек—вінцік, і калі ён ім не хоча рабіцца, то цяжка таму вайскоўцу, а калі ты яшчэ сумленны і паэт, то гэта зусім дрэнна. Сяргея Панізніка акружылі, як раней і мяне, жудасным кольцам сексотаў, якія пільна сачылі за кожным яго крокам, спрытна прэпаравалі яго словы, збіралі кампрамат. Перад ад'ездам на новае месца службы я гутарыў з Сяргеем і папярэджваў яго, каб ён асцерагаўся. Але машыны палітычнага і асобага аддзелаў ужо нельга было прыпыніць, за ім цікавалі. С. Панізніка хутка выключаюць спачатку з членаў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (1975), а потым звальняюць і з радоў Савецкай Арміі (1976). Што цікава, у час Янаева-Язаўскага путчу былы начальнік палітаддзела, а ў 1991 годзе першы намеснік Галоўнага палітычнага ўпраўлення СА і ВМФ генерал-лейтэнант А. Аўчыннікаў з экранаў тэлевізараў заклікаў савецкі народ падтрымаць дзеянні ГКЧП. Сёння дзесьці знік Аўчыннікаў, а яго чорны след і зладзейства ў адносінах да С. Панізніка няхай будуць яму вечным напамінкам.

Мяне не было ў той час у Мінску, а ў далёкую Няхту (Бурація) прыходзілі весткі, як цягалі Панізніка ў асобы аддзел, у палітычны аддзел, у партыйную камісію. Чалавек у такіх абставінах, калі ад цябе тае былыя таварышы адварочваюцца, пры сустрэчы пераходзяць на другі бок вуліцы, не пазнаюць цябе, чаго толькі не наробіць, слабыя хутка ламаюцца. Вытрывае і адолее насланнё толькі чалавек вялікай сілы характару. Сяргей Панізнік узяў сябе ў рукі і аддаў сваё сэрца, сілы і энергію літаратурнай працы. І ў ёй ён забыўся пра тыя жудасныя часіны. Ён выдае адну кнігу за другой—«Чало і век» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982), «Мацярык» (1985), «Жыцень» (1986) і іншыя. Вялікі поспех мела яго кніга «Пасля вогненных вёсак», якая ўпершыню пабачыла свет у «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы». Выдаецца вялікім тыражом зборнік вершаў для дзяцей «Адкуль вясёлка п'е ваду», з добрым густам ілюстраваная.

Цікава прасачыць, акрамя творчага, і далейшы жыццёвы лёс Сяргея Панізніка. Пасля таго, як ламалі і не зламалі яго ў войску, ён працуе фельчарам на «хуткай дапамозе», у газеце «Вячэрні Мінск», на Беларускім тэлебачанні, апошняе яго прыстанішча—выдавецтва «Юнацтва». Ён імкнецца скласці летапіс сваёй радзімы, раскабаць пра яе лепшых сыноў і дачок—Францішка Скарыну, Максіма Багдановіча, М. Забэйду-Суміцкага, Зоську Верас і іншых. Гэта ён, Сяргей Панізнік, адкрыў нам на старонках «Голасу Радзімы» пісьменніка Віктара Вальтара і яго кнігу «Роджаныя пад Сатурнам». І такіх адкрыццяў у Сяргея шмат.

У сваім вершы «Чакаю дружбакоў» ён піша:

**Лістоў чакаю ад сяброў:**
**там і навіны,**
**і прыгоды,**
**і мары, мары-параходы**
**плывуць фарватэрам гадоў...**

І ідуць у Мінск лісты не толькі з былога Саюза, ЗША, Канады, але і з Чэха-Славакіі. Ён там доўгі час служыў, а потым неаднойчы быў у творчых камандзіроўках, дзе займеў шмат дружбакоў. Сяргей Панізнік з'яўляецца раднікам Аб'яднання сяброў чэшскай і славацкай культуры імя М. Забэйды-Суміцкага.

Сяргей многім дапамог узысці на творчую сцяжыну. І тое, што я калінікалі друкуюся ў Маскве, Мінску, Чыце, Хабараўску, Іркуцку, Уфе, Чачэна-Інгушэціі, Малдове,.. то і тут справа ўпіраецца ў яго. Я памятаю, як ён у 1968 годзе «прымусіў» мяне напісаць першую заметку ў яго газету, а затым і іншыя. І ўслед за мной сваім першым вучыцелем Сяргея Панізніка сёння могуць назваць многія вядомыя людзі на Беларусі.

А яшчэ Сяргей Сцяпанавіч вельмі добра складае зборнікі, якія маюць выключную сілу ўздзеяння на людзей. Тут трэба сярод іх адзначыць «Спадчыну», пра раку братэрства Нёман, «Шыпшыну» Максіма Багдановіча...

Сярод многіх падарункаў, якія атрымаў ад Сяргея Панізніка, і гэтая кніга з нотамі: «Беларусь—крыніца песні», а напісала музыку на словы паэта Ганна Казлова.

**...Нам ніколі не памерці,**
**Не растаць, як знічкі,—**
**Пасля нас і нашы дзеці**
**Стануць ля крынічкі,**
**Ля якой змаглі ў час весні**
**Зноў мы ўкараніцца...**
**Беларусь—крыніца песні**
**І любві крыніца.**

Сяргей Сцяпанавіч Панізнік вырас з моцных беларускіх каранёў. І ён, як асілак, бярэ з беларускіх крынічных вод сілы і моц сваёй паэзіі. Нельга не пагадзіцца з ім, што ён адчувае сябе ў адказе за беларускую мову, за беларускую прыроду, за згуртаванне беларускага народа ў адну еднасць, за братэрства паміж народамі. І ў гэтай добрай справе рупліўца няхай пройдуць у яго і яшчэ сто гадоў.

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**



Прэм'ерай першага беларускага мюзікла парадаваў гледачоў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі. З вялікім поспехам прыняты аматарамі аперэты спектакль «Джулія» — новая работа беларускага кампазітара У. Кандрусевіча, створаная ім па матывах рамана С. Моэма «Тэатр». Арыгінальную пастаноўку мюзікла ажыццявіў рэжысёр Барыс Утораў. Ролю Джуліі бліскуча выканала народная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля ГАЙДА.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

Фота І. ЮДАША.

МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС АРТЫСТАЎ БАЛЕТА

## ВЕДАЙ НАШЫХ!

«У мастацтве адбываюцца цяпер інтэграцыйныя еўрапейскія працэсы»,—так ацаніў сённяшнюю сітуацыю галоўны балетмайстар ДАВТа Беларусі Валянцін Елізар'еў, вярнуўшыся нядаўна з Масквы, дзе праходзіў Першы незалежны міжнародны конкурс артыстаў балета імя С. Дзягілева. Ён быў арганізаваны «Дзягілеў-цэнтрам». На конкурс з'ехаліся прадстаўнікі СНД, Прыбалтыкі, Германіі, Іспаніі, Японіі, Вялікабрытаніі і іншых краін. У аснове конкурсных выступленняў былі творы з рэпертуару Дзягілеўскіх сезонаў.

«Узровень майстэрства ўдзельнікаў быў вельмі высокі, а таму і конкурсная барацьба атрымалася даволі жорсткай,—адзначыў В. Елізар'еў, які прадстаўляў нашу рэспубліку ў журы.—Першы тур праводзіўся па прысланых загадзя відэакасетах, без указання прозвішчаў канкурсантаў. Ужо адзін гэты факт сведчыць пра вялікую аб'ектыўнасць вынікаў. А яны для нас бліскучыя: усе шэсць прадстаўнікоў Беларусі сталі прызёрамі конкурсу. У старэйшай узроставай групе Веньямін Захараў удастоены прэміі імя С. Ліфара, Кацярына Фурман—прэміі імя І. Рубінштэйн. Навучэнцы Беларускага харэаграфічнага вучылішча Андрэй Мартынаў і Руслан Мінін сталі дыпламантамі конкурсу; Ірына Цымбал і Юлія Мітрафанава атрымалі стыпендыю імя С. Дзягілева. Адзначана і майстэрства нашых педагогаў. Заслужаная артыстка Беларусі Т. Яршова, якая рыхтавала К. Фурман і К. Захарава да конкурсу, удастоена дыплома лепшага педагога.

**Гэтыя перамогі сцвярджаюць беларускае мастацтва на міжнародным узроўні. Нам жа яны дазваляюць спадзявацца на тое, што ў нашых бізнесменаў таксама калі-небудзь абудзіцца жаданне падтрымліваць лепшыя творчыя калектывы.**

**Т. ВАЛАЧКОВІЧ.**

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ У ПРАСТОРЫ І Ў ЧАСЕ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

быцця чалавека праз яго ўнутраны маральны змест і блізкасць да разумення эсхаталагічных ісцін. Абагаўленне як шлях цераз маральнае самаўдасканаленне да Бога, містычнае ўспрыманне рэальнасці, уласцівае для ўсходняй галіны хрысціянства, ужывалася з больш арыентаваным на свецкія праблемы ўплывам каталіцызму.

Па-рознаму і не заўсёды мірна суіснавалі дзве гэтыя культурна-гістарычныя традыцыі. Былі перыяды, калі праваслаўных абмяжоўвалі ў правах, імкнучыся звузіць да крайнасці ўплыў усходняй царквы, а значыць, і рускай дзяржавы. Але многа было і прыкладаў прыняцця спецыяльных заканадаўчых актаў, якія ўраўноўвалі ў правах прадстаўнікоў розных канфесій, што нават знайшло сваё адлюстраванне ў артыкулах Статута Вялікага княства Літоўскага, дакумента ўвогуле унікальнага для свайго часу па глыбіні і ступені распрацаванасці прававых пытанняў.

Культурна-рэлігійны фон гістарычнага лёсу народа ніколі не вызначаўся ўзаемазвязанасцю нацыянальнага і канфесіянальнага. А зусім жа не за далёкімі морамі ляжала руская зямля, дзе ідэя святой праваслаўнай Русі спрадвеку вызначала самасвядомасць народа, служыла фактарам самаідэнтыфікацыі этнічнай самасвядомасці. Руская ідэя, як бы сёння ні трактаваць гэты феномен,—перш за ўсё ідэя праваслаўная, а потым ужо ідэя культурная, філасофская, этнічная, палітычная і ўсякая іншая. Для заходняй суседкі Беларусі рэлігія таксама адыграла ролю аб'ядноўваючага фактару ў гістарычным існаванні польскага народа. Можа, дзякуючы галоўным чынам касцёлу, гэты народ і змог выжыць і захавацца ў надзвычай складаных умовах пастаянных замахаў на цэласнасць дзяржавы з боку і ўнутраных, і асабліва, вядома, знешніх сіл. Дзве такія пэўныя культурна-рэлігійныя традыцыі ў самай непасрэднай блізкасці, па-суседску, з веку ў век, і сваё, асаблівае паміж імі. Было б надзвычайным спрашчэнствам і самаданейнасцю вызначыць гэта асаблівае толькі як перакрыжаванне дзвюх традыцый, а не як сваю ўласную самабытнасць і гістарычны лёс.

У XVI стагоддзі на беларускую зямлю прыходзіць Рэфармацыя, якая знайшла тут мноства палкіх прыхільнікаў. Беларусь аказалася, мусіць, крайняй мяжой у руху Рэфармацыі на ўсход, асабліва гэта тычыцца кальвінізму, які распаўсюджваўся надзвычай хутка ў адрозненне ад лютэранства, якое не было такім папулярным на гэтай зямлі. Улічваючы ўсе магчымыя сацыяльна-палітычныя рэаліі, што прывялі да такога пераможнага шэсця кальвінізму, адзначым тое, што, можа быць, не так добра вывучана з пункту гледжання звыклых нам канонаў прыярытэту матэрыяльных і, перш за ўсё, эканамічных фактараў. Немалаважнае значэнне, напэўна, мела і тое, што пратэстанцкая этыка, этыка працы, справы, поспеху, працвітання чалавека ў зямным жыцці і тым ратаванне яго перад Госпадам, адпавядала ментальнасці народа, арганічна ўпляталася ў яго культурныя традыцыі. Таму, прыводзячы аргументы, якія тлумачаць распаўсюджванне Рэфармацыі з пазіцый эканамічных і палітычных фактараў, не будзем скідваць з рахунку і векавыя традыцыі верацярпімасці, індывідуальнай свабоды чалавека, уласцівыя грамадскай свядомасці спробы рацыяналістычнага тлумачэння рэчаіснасці, набліжэння свяшчэннага да чалавека. Адыграла сваю ролю і шырокае распаўсюджанне кнігадрукавання, дзейнасць Францішка Скарыны па перакладу Біблii на родную мову, перакладу, які быў ажыццёўлены раней, чым гэта было зроблена Лютэрам. Нездарма, напэўна, для многіх Скарына сам з'яўляўся прадвеснікам Рэфармацыі, многія прыкмячалі ў ім рысы дзеяча экуменічнага плана. Відавочна, што творчасць гэтага вялікага сына беларускага народа этычна арыентавана, вытрымана ў духу ідэалаў верацярпімасці і дабрыні, любові да роднай зямлі, сапраўднага гуманізму.

Поліфанічнасць культурных і рэлігійных традыцый у многім і абумовіла магчымасць развіцця ідэй Адраджэння на гэтай зямлі. Уласна, само шырокае распаўсюджанне багаслоўскай літаратуры, наяўнасць бібліятэк, развіццё кнігадрукавання аблягчалі пранікненне гуманістычнага светапогляду, тым болей, што пранікненне іншага комплексу светапоглядных ідэй Рэнесанса—ідэалаў індывідуальнай свабоды чалавека, сацыяльнага кантракта чалавека і дзяржавы таксама было падрыхтавана ў дастатковай ступені распрацаванай сістэмай права, якая знайшла сваё выяўленне ў Статутах Вялікага княства Літоўскага, якія не старэлі на працягу стагоддзяў. Узлёт рэнесанснай беларускай культуры—гэта перыяд сапраўднага росквіту, які ўзбагаціў сусветную цывілізацыю ўзорамі высокай творчасці.

Культура кожнага народа развіваецца па сваіх уласных законах, але найважнейшай яе функцыяй з'яўляецца захаванне этнічнай своеасаблівасці, супраціўленне ціску абставін, разбуральных для этнасу, пры гэтым не мае значэння, які характар гэтыя абставіны маюць: палітычны, эканамічны, сацыяльны ці культурны. Страта «самасці» этнасу — галоўная і апошняя катастрофа для нацыянальнай культуры, сведчанне яе няздольнасці да самаўзнаўлення і самазахавання. У розныя гістарычныя адрэзкі часу культура, відавочна, валодае спецыфічнымі магчымасцямі для адказу на выклік абставін, адаптацыі да зменлівай рэальнасці без страты сваіх сутнасных рысаў. Для беларускай культуры такая змена эпох адбываецца на рубяжы XVI—XVII стагоддзяў і ў першай палове XVIII стагоддзя, калі рэлігія вылучаецца на першы план у якасці гаранта захавання ядра культурнай складаючай этнічнай самасвядомасці. Безумоўна, гэта была новая з'ява на фоне традыцыйнага канфесіянальнага плюралізму і несупадзення рэлігійнага і этнічнага вектараў. Але па-за гэтым культурна-рэлігійным паваротам, цалкам рэвалюцыйным, немагчыма ўявіць сабе далейшае жыццё культуры ва ўмовах неспрыяльных і палітычна, і сацыяльна, і духоўна.

Унія, заключаная паміж праваслаўнай і каталіцкай царквой, была абумоўлена складанейшым комплексам розных фактараў. Стваралася новая дзяржава, абвастрыліся і без таго напружаныя адносіны з Масквой, бясконцыя войны з якой выклікалі і прагу адасаблення ў духоўна-рэлігійным плане. Неадназначную пазіцыю займала і беларуская эліта, якая шукала сваё месца ў новых палітычных рэаліях. Акрамя таго, векавыя традыцыі суіснавання розных рэлігій сфарміравалі спецыфічную ментальнасць народа, здольную ўспрыняць новую рэлігію без духоўнага надлому, які, у сваю чаргу, прыводзіць да крывавага процістаяння. Успомнім, што з сябе ўяўляў раскол на Русі, вынікі якога адчувальныя да сённяшняга дня, нягледзячы на тое, што гэтая праблема амаль забытая і ў літаратуры, і ў філасофскім плане, і нават у рэлігійным. Раскол і Рэфармацыя вельмі розныя з'явы, але адначасова і такія гістарычна блізкія, таму што Рэфармацыя таксама па сутнасці сваёй была Расколам, які прывёў да стварэння новай Царквы! Але ўсё-такі само слова Рэфармацыя не такое трагічнае, у ім больш рацыяналістычнага і свецкага, у ім няма трагічнай безвыходнасці слова Раскол, за якім ужо толькі містычная несумяшчальнасць, кроў і агні пажарышчаў. Тут таксама з'явілася новая царква, якая аказалася зусім не новай, а старой. Рэформа без Рэфармацыі—гэта і ёсць Раскол? Рэлігійныя войны пры ўсім тым рацыянальнаму тлумачэнню паддаюцца лепш, тым больш, што і вынікі ў наяўнасці: новая рэлігія дала магутны штуршок развіццю новых сацыяльна-эканамічных адносін.

Але на зямлі Беларусі ўсё не так. Не раз'яднанне, але злучэнне, не раскол, але унія, іншымі словамі—саюз. Прыход Рэфармацыі і прыход уніі такія блізкія, што гістарычна выглядаюць амаль аднамомантнымі і другой такой аднамомантнасці ў гісторыі, напэўна, не знайсці. Увядзенне уніі не было, вядома, ідылічнай пастараллю, але наколькі яно далёкае ад рэлігійных войнаў, што бушавалі далей на захад, водгалас якіх чутны нам да сённяшняга дня, напрыклад, на шматпакутнай зямлі Ірландыі. Мала было падобным яно і на страсці па Расколу ў бліжэйшай суседкі на ўсходзе. Усё адбывалася па-свойму па-за аналагамі і паралелямі. Хаця, здавалася б, заключэнне уній зусім звычайная практыка для Рыма, не так, відаць, многа праваслаўных цэркваў засталося, з якімі б не былі яны заключаны. Але толькі тут, на гэтай зямлі, уніі была падрыхтавана роля нацыянальнай рэлігіі. Экуменічны характар новай канфесіі як нельга лепш адпавядаў экуменічнаму характару культуры, менталітэту верацярпімасці і шырокага погляду на свет. Следам за перыядам супраціўлення новай рэлігіі прыйшла эпоха яе шырокага распаўсюджвання, якая адрознівалася вельмі моцна і якасна ад перыяду распаўсюджвання пратэстантызму. Новая рэлігія стanавілася паступова рэлігіяй народных мас, а не набілітэта, у царкву прыйшла беларуская мова. Можа быць, быў зроблены новы крок па таму шляху, на які ступіў доктар каталіцкіх універсітэтаў Ф. Скарына, які пераклаў Біблію на родную мову. Але як жа адрозніваўся гэты крок ад таго, што паследавала за другім перакладам—геніяльным перакладам Лютэра!

Па-рознаму можна ставіцца да уніі, тым больш, што фундаментальныя яе даследаванні яшчэ наперадзе, але напэўна была праўда і ў сцвярджэннях бацькоў-заснавальнікаў новай рэлігіі, якія меркавалі, што яны робяць не канфесіянальны, а перш за ўсё культурна-палітычны выбар, ва ўсякім разе ў гэтым яны ўжо сапраўды аказаліся празорліўцамі. Гістарычны парадокс заключаецца ў тым, што менавіта тыя, хто ўскладаў на унію карыслівыя надзеі адхілення народа ад гістарычных каранёў, пралічыліся больш за ўсё. Унія прыняла на сябе гістарычную місію захавання нацыянальнай культуры, этнічнай самасвядомасці народа і з гэтай місіяй справілася. Не атрымаўся мост ад праваслаўя да каталіцызму, не адбылося акаталічвання насельніцтва праз пасрэдніцтва прамежкавай стадыі—уніі—атрымалася новая якасць культуры, культуры нацыянальнай, а значыць жывой, якая развіваецца. Што ва ўмовах зусім выразнага наступу культуры польскай не такое ўжо маленькае дасягненне. І зноў спробы кампрамісу, пошукі балансу: беларуская мова адыходзіць (ці выцясняецца?) з дзяржаўных устаноў, але прыходзіць у царкву, адпраўленне культу ўпершыню ў гісторыі народа становіцца фактарам захавання самасвядомасці. Жывы арганізм культуры, развіваючыся, як бы пульсуе, знаходзячы для сябе менавіта тыя напрамкі, дзе на даны момант можна забяспечыць найбольш спрыяльныя ўмовы для захавання нацыянальнай самасвядомасці, ядра культурнага комплексу, няхай нават у пераўтворанай форме. Уніі выпала адыграць у гэтым сэнсе вельмі істотную ролю.

Немалаважнай асаблівасцю беларускай культуры быў і высокі прэстыж адукацыі, сапраўдны культ ведаў. Можна нават сказаць, што беларуская цывілізацыя—гэта цывілізацыя адукацыі, і ў гэтым не будзе ніякай нацяжкі. У многім гэта тлумачыцца тым, што канфесіі, распаўсюджаныя на гэтай зямлі, імкнуліся зацвердзіцца пры дапамозе стварэння ўласных школ. Яны змагаліся за выжыванне не толькі пры дапамозе традыцыйных палітычных інтрыг і прамога насілля, хаця і гэтага, вядома, хапала, але і пры дапамозе выдатнай пастаноўкі адукацыі, адмены платы за навучанне, магчымасці прадоўжыць яго ў лепшых універсітэтах Еўропы. Вельмі сучасна выглядае падобная тэндэнцыя сёння ў перыяд беларускага нацыянальнага адраджэння!

Цікава адзначыць, што ўсюды ў Еўропе адукацыя як сістэма складвалася як бы ад даху да фундаменту—ад універсітэтаў да школ і дзяцячых садоў, тут жа асаблівая ўвага ўдзялялася абучэнню з самага пачатковага перыяду самых маленькіх дзяцей. Прыкладам цудоўнай пастаноўкі сістэмы адукацыі могуць служыць езуіцкія калегіумы, дзе выкладалі выдатныя педагогі, а навучанне было часта бясплатным. Той, хто канчаў гэтыя школы, меў выдатную магчымасць прадоўжыць адукацыю за мяжой, дзе пры універсітэтах меліся нават спецыяльныя інтэрнаты для выхадцаў з Вялікага княства Літоўскага. Дарэчы, адным са Статутаў Вялікага княства (1566 г.) спецыяльна агаворвалася гэта права для вучняў-выдатнікаў. Акрамя каталіцкіх калегіумаў меліся школы пры праваслаўных брацтвах, дзе, вядома ж, уплыў візантыйскай праваслаўнай культуры быў значна больш моцным, а важным прадметам з'яўлялася грэчаская мова. Свае школы мелі прадстаўнікі пратэстанцкай канфесіі, і некаторыя з іх былі сапраўды выдатнымі. Увогуле ж трэба хаця б мімахадзь адзначыць той факт, што ўсе тыя прадстаўнікі беларускай культуры, якія па праву складаюць яе залаты фонд, у асобныя перыяды свайго жыцця, а некаторыя і ўсё жыццё былі звязаны з адукацыяй і нават канкрэтна са школамі. Гэта забяспечвала высокі ўзровень адукацыі, яе навуковасць, глыбокую сутнасную сувязь з культурнымі традыцыямі народа. Думаючы сёння аб адраджэнні беларускай культуры і мовы, нельга забываць аб гэтых векавых традыцыях народа, аб тым, што па-за і апроч школы, без самай пільнай увагі да сістэмы асветы нічога не атрымаецца, колькі б добрых пажаданняў ні было выказана з самых высокіх трыбун.

Другая палова XVIII стагоддзя адкрывае новую старонку ў развіцці культуры, знамяную сабой разрыў, што ўсё ўзмацняўся, паміж культурамі, якія даволі ўмоўна можна назваць высокімі і нізкімі, гэта значыць народнымі, сялянскімі. Працэсы апалячвання, а потым і русіфікацыі, што ішлі адзін за другім і закранулі перш за ўсё эліту, прывялі да таго, што нацыянальная культура спусцілася на іншы ўзровень, яна лакалізавалася ў формах народнай культуры, фальклору, казак, народных танцаў і г. д. Традыцыі высокай філасофіі, развітой правасвядомасці, рэлігійныя шуканні адышлі на задні план, не знікнуўшы зусім, яны на некаторы час перасталі быць вызначальнымі. **Трэба было выжыць, захавацца ва ўмовах зусім крытычных, пранесці патэнцыял народнай самасвядомасці ў адзіна магчымых формах.** Гэты перыяд аказаўся даволі працяглым, нягледзячы на некаторыя перапынкі і відазмяненні, ён, па сутнасці, працягваецца і да сённяшняга дня, бо ўяўленне аб беларускай культуры часта абмяжоўваецца толькі фальклорам, прычым вясковым. Вялікія пласты культуры застаюцца незапатрабаванымі, хаця менавіта цяпер яны маглі б адыграць выключную ролю. Бо ў эпоху індустрыяльнай цывілізацыі высокая культура арганічна ўпісваецца ў сацыа-культурны кантэкст развіцця грамадства, а народная—мае патрэбу ў спецыяльнай падтрымцы і намаганнях па захаванню. І гэта, як паказвае сусветны вопыт, даволі ўстойлівая тэндэнцыя, якую нельга не ўлічваць. Народныя танцы, фальклор, ігра на народных інструментах, без якіх сёння ўжо нельга ўявіць нашае культурнае жыццё,—гэта цудоўна, але гэтым далёка не вычэрпваецца ўсё багацце унікальнай культуры беларускага народа, якая садзейнічае фарміраванню нацыянальнага менталітэта. За гэтай культурай стагоддзі духоўных пошукаў, высокія філасофскія прасвятленні і ўзоры па-сапраўднаму гуманістычнага мыслення, традыцыі індывідуальнай свабоды чалавека і экуменічныя пачаткі рэлігійнага жыцця, якія і сёння, у канцы дваццатага стагоддзя, не выглядаюць архаікай. А можа быць толькі яшчэ наперадзе час беларускай культуры, таму што традыцыі талерантнасці і полiварыянтнасці, здольнасці да адаптацыі розных традыцый пры тым, што захоўваецца галоўны космас культуры,—хіба гэта не тыя тэндэнцыі, якія вызначаюць магістральны шлях чалавечай цывілізацыі на парозе трэцяга тысячагоддзя?

Промысел Божы скрыты ад асобнага чалавека, ён не даецца ў асабістым вопыце, але можа быць ён больш зразумелы для народа на цяжкім шляху ўзлётаў і падзенняў, які і называецца гісторыяй. Беларускі шлях... Куды, у якія далячыні вядзе ён?..

**Галіна ШАТОН.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

# У ХРАМЕ ХАРАСТВА І МУДРАСЦІ

**Перагорнута апошняя старонка кніжкі. І такое ўражанне, што з аўтарам пройдзены дзесяткі кіламетраў па нашай роднай беларускай зямлі. Прытым не гасцінцамі ды асфальтаванымі аўтастрадамі, дзе гул матораў не дазваляе пачуць срэбразвонную песню жаваранка, а перагар бензіну на кожным кроку перабівае мядовы водар канюшыннага ці грэчкавага поля, якое так хараша зацвіло пад цёплымі промнямі сонца.**

**Аўтар павёў нас таемнымі мясцінамі адвечнага бору, маляўнічымі ўзлескамі, мурожнымі лугамі.**

**Наважыўшыся зрабіць такое «падарожжа» ў свет прыроды, дзе ўсё жыве па мудрых, адшліфаваных за доўгія тысячагоддзі законах дынамічнай раўнавагі, аўтар кнігі, якая так і называецца «У глыбінках адвечнага бору» (выдавецтва «Ураджай», 1991 год), прафесіянальны біёлаг Вячаслаў Стома, несумненна, меў перад сабою актуальны «сацыяльны заказ» на такое «падарожжа» і такую размову. Тэхнічны прагрэс і урбанізацыя навакольнага асяроддзя ўжо дастаткова аддалілі чалавека, асабліва маладое пакаленне гарадоў, ад месцаў жыцця і працы нашых продкаў — поля, лугу, лесу.**

**Кніжка не мае суцэльнага сюжэта, яна складаецца з асобных навел і замалёвак, героем якіх з'яўляецца — няхай не будзе гэта дзіўна — сама прырода. Толькі навелы «Быль старога хутара» і «У лесе на Слоўчы» прасочваюць нялёгкае жыццё лясных насельнікаў у часе — ласкі і маладога зайчыка. Шэраг замалёвак — «Сакавік», «Майскія ночы», «Калі цалуюцца зоры» і іншыя — аб'яднаны загалоўкам «За месяцам — месяц» і па форме ўяўляюць феналагічныя назіранні за прыроднымі з'явамі ў розныя поры года.**

**В. Стома, як біёлаг, вядома, добра ведае эталогію — навуку аб паводзінах звяроў і птушак і заўсёды вядзе размову аб прадмеце назіранняў як бы на мяжы біялагічнай рэальнасці і нашых уяўленняў аб паводзінах жывой істоты ў той ці іншай сітуацыі. Гэта дазваляе аўтару**




**не збіцца на казачнасць сюжэта свайго апавядання, а чытачу дазваляе верыць у рэальнасць яго гутаркі са звярамі і птушкамі, за якой — сапраўдная, натуральная рэчаіснасць.**

**В. Стома карыстаецца сакавітай, сапраўды матчынай мовай. Гэтая акалічнасць паглыбляе давер чытача да яго гутаркі, а разам з іншымі вартасцямі дыялога стварае атмасферу, якая без асаблівых намаганняў вымушае нас верыць, што так яно і ёсць: прырода — найвялікшы храм хараства і мудрасці. Забываючы гэта ці ігнаруючы, чалавек не можа быць чалавекам.**

**Іван КАЛІНА.**

## СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ДВА МУЗЕІ

# АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Беласток — горад, з якім гродзенцаў звязваюць і агульныя старонкі гісторыі, і даўнія культурныя сувязі. Наладжваецца супрацоўніцтва паміж Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеем і Беластоцкім Акруговым музеем. Вынікам супрацоўніцтва двух музеяў з'явілася выстаўка «Археалагічныя даследаванні ў Беластоцкім ваяводстве ў 1955—1987 гадах», што прайшла ўпершыню ў нашым горадзе ў выставачнай зале музея.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі і нашы польскія калегі: загадчыца аддзела археалогіі Беластоцкага Акруговага музея Крысціна Бянькоўска і навуковы супрацоўнік Лех Паўлата.

Супрацоўнікі абодвух музеяў плануюць правядзенне розных сумесных мерапрыемстваў. Так, запланавана экспанаванне матэрыялаў з фондаў нашага музея ў горадзе Беластоку.

***

Археалагічныя даследаванні Беласточчыны былі пачаты ў другой палове XIX стагоддзя. Вяліся яны нерэгулярна, часцей за ўсё гэта быў вынік захапленняў асобных людзей, а не навуковых устаноў. Асобае месца сярод археолагаў мінулага стагоддзя займае Зыгмунт Глогер — даследчык паселішчаў каменнай і бронзавай эпох.

У пачатку XX стагоддзя Беласточчыну вывучалі рускія даследчыкі С. Дубінскі і Н. Авенарыус. Даследавалі яны ў асноўным берагі Буга, могільнікі перыяду ранняга сярэдневякоўя. А гродзенскі археолаг І. Іадкоўскі праводзіў раскопкі помнікаў рымскага перыяду і ранняга сярэдневякоўя, але яго даследаванні насілі ў асноўным разведачны характар.

Пачатак другой сусветнай вайны спыніў даследчыцкія работы археолагаў. 1955 год з'яўляецца пераломным для археалогіі беластоцкіх зямель. У ваяводскім кансерватарскім аддзеле ў Беластоку была заснавана пасада інспектара па справах архітэктурных помнікаў, а ў мясцовым музеі быў створаны аддзел археалогіі. Археалагічнымі даследаваннямі Беласточчыны чвэрць стагоддзя кіравалі Данута і Ян Ясканіс. Матэрыялы раскопак паслужылі базай для стварэння археалагічных аддзелаў у музеях Сувалак і Ломжы. Збор аддзела археалогіі ў Акруговым музеі Беластока налічвае каля 16 тысяч помнікаў розных перыядаў.

За 30 гадоў існавання ў Беластоку археалагічных устаноў даследавана каля 100 стаянак на цяперашняй тэрыторыі ваяводства. Акрамя археалагічных пошукаў звыш 30 гадоў працягваюцца паверхневыя даследаванні. У 1978 годзе іх уключылі ў рамкі агульнапольскай даследчыцкай праграмы «Археалагічны здымак Польшчы». Ужо вывучана 80 раёнаў, адкрыта каля 4 тысяч новых стаянак, вядомых раней па літаратурных і архіўных крыніцах. Поўнае завяршэнне даследаванняў гэтых стаянак дазволіць не толькі вызначыць археалагічныя рэсурсы, але і геаграфію засялення Беласточчыны ў старажытнасці.

На выстаўцы было прадстаўлена каля 1 600 экспанатаў. Прылады працы з крэменю даюць магчымасць сцвярджаць, што Беласточчына была заселена ўжо ў эпоху позняга палеаліту (X—VIII тысячагоддзі да нашай эры). Найбольш характэрным аб'ектам пшэворскай культуры быў могільнік з 372 пахаваннямі ў Крупіцах. Дамінуючай формай пахавальнага абраду было трупаспаленне і ўкладванне касцей у пасудзіны ці непасрэдна ў ямы. Прадстаўлена урна захавання, багатая калекцыя металічных вырабаў, знойдзеных у пахавальных ямах.

Самы вялікі аб'ект вельбарскай культуры — могільнік у Цецелях. У ім 555 бескурганных і 8 курганных пахаванняў. Тут пераважаў абрад трупаспалення з пахаваннем у магільных ямах, радзей у урнах. Выяўлены і пахаванні з трупаспаленнем, дзе пахаваны ў асноўным дзеці.

У большасці пахаванняў выяўлены ў асноўным упрыгажэнні (пацеркі, пярсцёнкі, заколкі, фігурныя спражкі) і прадметы штодзённага быту (прылады, наканечнікі коп'яў, тапорыкі, нажы і інш.).

Многа гадоў польскія археолагі займаліся вывучэннем грабніц, што называюцца расталоцкімі (Расталоты каля Беластока), што датуюцца V стагоддзем. Па багаццю знаходак (пазалочаныя, шкляныя вырабы) іх адносяць да грабніц княжацкага тыпу.

Нашы калегі вялікую ўвагу ўдзяляюць і даследаванню гарадзішчаў, селішчаў, могільнікаў перыяду ранняга сярэдневякоўя. На выстаўцы былі прадстаўлены матэрыялы гарадзішча ў Хацьках, самай старой крэпасці Беласточчыны. Выяўлены ліцейныя формачкі, пазалочаныя ўпрыгажэнні для паса. Цікавыя могільнікі з пахаваннямі, абкладзенымі камянямі — характэрная форма некропаля ранняга сярэдневякоўя Беласточчыны.

Экспанаваліся таксама матэрыялы могільнікаў з Чарнай Вулькі, Суража, Драгічына.

Немагчыма ўявіць усе шматлікія матэрыялы археалагічных даследаванняў супрацоўнікаў Беластоцкага Акруговага музея, наведвальнікі выстаўкі змаглі азнаёміцца з найбольш цікавымі даследчыцкімі тэмамі. Іх апрацоўка — гэта вынік 30-гадовай дзейнасці мясцовых археолагаў Беласточчыны.

**Ю. ШАСТАК.**

## СТУДЫЯ ЧАКАЕ ХЛОПЧЫКАЎ

Другі месяц працуе пры Беларускім тэатры юнага гледача дзіцячая тэатральная студыя. У ёй займаецца каля дваццаці школьнікаў, якія прайшлі перад тым даволі сур'ёзны конкурс. Кіруе студыяй юных аматараў сцэны мастацкі кіраўнік тэатра М. Абрамаў.

— Нашы студыйцы, — гаворыць Мадэст Мадэставіч, — знаёмяцца з асновамі сцэнічнага майстэрства, вучацца спевам, танцу, руху, займаюцца сцэнаграфіяй, бутафорыяй, ёсць група рэцэнзентаў. А галоўнае — яны далучаюцца да нацыянальнай культуры, да нацыянальнага мастацтва. Заняткі па роднай мове і літаратуры, па далёкай і блізкай гісторыі Беларусі, наведванні музеяў, выстаў будуць спрыяць іх агульнаму развіццю, абуджэнню пачуцця гонару за свой народ, сваю Бацькаўшчыну. Выкладанне ў студыі даручана лепшым акцёрам. Наша мара — каб дзіцячая студыя не ператварылася ў тэатр пры тэатры, а стала жыватворнай крынічкай, ад якой пацягнуліся б ручаінкі ў школы, у сем'і. І гэта будзе нашым укладам у святую справу адраджэння нацыянальнае культуры Беларусі.

**А. ВОЛЬСКІ.**

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## У НАШАГА ДРУЖЭНЬКА ЧОРНЫЯ ВОЧЫ




**У нашага дружэнька**
**Чорныя вочы,**
**Ён не баіцца**
**Цёмнае ночы.**

**— Ой, чаго ж бо мне**
**Ночкі баяціся:**
**Конь пада мною,**
**Бог нада мною.**

**Конь пада мною,**
**Бог нада мною,**
**Малада Гануська**
**Упоруч са мною.**

**— Чом ты, дружэньку,**
**Не п'еш і з намі,**
**Ці ты, маладзенькі,**
**Ганьбуеш намі!**

**— Я не ганьбую —**
**Думку думаю,**
**Як мне гэта войска**
**Заваяваці.**

**Як мне гэта войска**
**Заваяваці,**
**Маладу Гануську**
**З сабой узяці.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Зак. № 819.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12